№ 3 — СЬНЕЖАНЬ 1947 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 30 фр. || Адрыс радакцыі: Adresse : Redaction, 35, rue de Sèvres, Paris (6). || Падпісная цана на год 300 фр.

# Перад жолабам



Увесь хрысьціянскі сьвет год у год урачыста сьвяткуе найбольш важны дзень у гісторыі сьвету: дзень нараджаньня Ісуса Хрыста.

Нявымоўны чар і сіла захаваны ў гэтым вялікім Сьвяце. Кожны хрысьціянін добра ведае гісторыю гэтага сьвята і ніякіх новых адкрыцьцяў у гэтай справе не чакаецца, аднак заўсёды з нейкаю насалодаю пераносімся думкаю ў тыя даўныя часы, каб адсьвяжыць сабе ў памяці добраведамыя падзеі.

1952 г. таму ў ціхім, маленькім палестынскім мястэчку Бэтлеем, між шматлікімі жыхарамі, якія па загаду рымскага імпэратара Аўгуста мусілі выканаць фармальнасьці перапісу насельніцтва, знайходзіліся ўбогія і нічым на вонках няпрыметныя сьвятыя Язэп і Марыя. Бачучы іхняе ўбоства ніхто іх нават на начлег ня прымае і яны сабе знаходзяць начлег за мястэчкам у апушчаным хляве. Там прыйшоў час Найсьвяцейшай Марыі радзіць Збаўцу сьвету Ісуса Хрыста. Першаю калыскаю для нованароджанага Хрыста стаўся ўбогі жолаб.

І Вось зачынаюць дзеяцца дзіўныя зьявы—нячуваныя дагэтуль падзеі чаргуюцца адна за другою. Адчыняецца Неба і хоры нябесных сілаў сьпяваюць чудовую песьню: «Слава на вышнях Богу, а на зямлі мір людзям добрае волі». Зьляканыя пастухі, што воддаль ад таго хлява сьцераглі статак, ня ведаюць, што думаць аб гэтым, але тут-жа ім Божы пасланец тлумачыць сэнс зьявішча, што радзіўся Збаўца сьвету і пасылае іх да жолаба паглядзець на Нованароджанага. Шчырыя простыя душы йдуць першыя з усіх людзей і аддаюць паклон Нованароджанаму. А там з Усходу слаўныя мудрацы, якія пільна сачылі за

*Усіх чытачоў радакцыя вітае з сьвятам нараджаньня Хрыста і жадае шчасьлівага Новага Году*

зьвамі на небе, спасьцераглі нябывалую зорку, пазналі прыход на сьвет Збаўцы і сьпяшаць аддаць Яму належную пашану — Таму, што ў жолабе.

Адначасна штодзеннымі гульнямі, банкетамі ў гасьцініьніцах Бэтлеему, дзе не знайшлося мейсца для сьв. Марыі, весяліліся тагачасныя жыхары, весяліўся ў Ерузаліме іўюдэйскі цар Ірад, Вялікі, але і да іх даходзіць вестка аб тым, што сталася ў ціхім апушчаным жолабе, і дзіва — у царскім палацы настае трывога; магутная ўлада пачынае дрыжаць перад немачным Дзіцяткам у жолабе. Занепакоіўся крывавы цар Галілеі Ірад, які з зайздрасьці за сваю царскую ўладу загадаў замардаваць ня толькі сваіх шваграў (Арыстобула III, і Гіркана II) і цешчу Аляксандру, а нават жонку Марыяму, а незадоўга перад сьмерцю старэйшых сваіх сыноў (Антыпатра, Аляксандра і Арыстобула); дзеля гэтага рымскі імпэратар Аўгуст казаў: «У Ірада лепш быць паршуком, чым сынам», бо паводле жыдоўскага звычаю Ірад ня еў сьвінога мяса.

Гэты Ірад намагаецца ўсімі спосабамі зьнішчыць Новanароджанага Хрыста. Не памаглі хітрыкі, дык пускае ў ход мячы. Палілася нявінная кроў бэтлеемскіх дзяцей, але Хрыстос ў гэты час быў ужо далёка — у Егіпце. Не прайшло і двух гадоў ад гэтае падзеі і сам крывавы Ірад Вялікі загавеў душою, а незабавам Хрыстос вярнуўся ў Палестыну і выканаў сваё пасланства.

Сёньня мы пераносімся думкаю ў тое далёкае мінулае, каб шчыраю душою аддаць пашану Збаўцу сьвету разам з першымі пастушкамі, ды ўмацаваць сваю веру і суцешыць сваё збалелае сэрца. Там каля жолабу мы бачым, на якіх тоненькіх павуцінках завешвае Бог долю людзей, долю ўсяго сьвету і гэтыя тоненькія павуцінкі ў Божых руках стаюцца мацнейшымі за стальныя пастронкі. Што значыла Іраду зьнішчыць безбароннага Хрыста, калі ўжо зьнішчыў толькі людзей? Ужо вось, вось каля жолаба круціліся яго каты, але Бог паказваецца самым звычайным спосабам мацнейшы за ўсякую зямную моц, нават успрыняўшы немачнае людзкое цела.

Там каля жолабу сустрэліся ўпяршыню так яскрава дзьве сілы: бесканечная Боская дабрата і любоў, што пасылае другую сваю Асобу на зямлю ўцелавіцца, прыняць на сябе людзкія немачы і грахі, каб за іх адпакутаваць і адчыніць для людзей дзьверы вечнага шчасьця;
і другая: людзкая злоба і засьляпленьне, што зьнішчае сама сябе.

Туды да жолабу сьпяшаліся пастушкі і мудрацы аддаць пашану Хрысту і туды сьпяшаць ірадавы каты, каб загубіць свайго Збаўцу. Там разыходзяцца шляхі гісторыі сьвету і жыцьця кожнага чалавека. Кожны з нас, хоча ці ня хоча, мусіць сабе выбраць адзін зь іх: ці той пастушкоў і мудрацоў, ці ірадавых катаў, іншага няма. Або далучымся да ангельскіх хораў і сумесна будзем пяяць: «Слава на вышынях Богу і на зямлі мір людзям добрае волі», або з мячом у руках шукаць Хрыста, каб загубіць Яго. Аднак ані Ірад, ані рымскія імпэратары, ані ўсялякія бязбожнікі гэтага сьвету Хрыста ня зьнішчылі, толькі самі трапілі ў вечнае пракляцьце, таму сёньня, калі перад намі розныя цёмныя сілы блытаюць жыцьцёвыя шляхі, сьцеражэмся, каб ня зьбіцца з таго шляху, які зачынаецца ад бэтлеемскага жолаба і на які ступілі пастухі, потым усходнія мудрацы, а за імі і мы.

**а. Леў.**

# Валадару няма мейсца у сваім валадарстве

У Бэтлееме прынцыпова ніхто ня меў нічога супроць маючага нарадзіцца Хрыста. Толькі... абставіны палітычныя, сацыяльныя, гаспадарчыя прывялі да таго, што радзіцца Яму нідзе не найшлося мейсца...

А сёньня — дзе мог-бы Хрыстос нарадзіцца?

Ці сёньняшнія палітыкі, грамадзкія дзеячы, эканамісты вучоныя, або артысты ўсьцяж ня робяць таго-ж Бэтлеемскага праступку?

Хрыстова праўда ёсьць паўсёдная, паўсюдная, агульнавартасная, нязьменнатрываючая, маўляў той вялікі дзенны Божы сьветач — сонца. Яно ёсьць усюды, або яго няма нідзе і то — для ўсіх, або для нікога. Бяз сонца няма жыцьця.

Хрыстова праўда хоча ня толькі жыць, але валадарыць непадзельна і неабмежавана.

І ў гэтым вось ляжыць прычына, дзеля каторай і сёньня Хрыстос хіба нарадзіўся-б — у стайні.

Ну дзе-ж бо інакш Ён нарадзіўся-б?

У цэнтры гораду, у магістраце? О не! На арэне многаверства ці міжверства мусяць паступаць вельмі асьцярожна, далікатна...

Дзеля тактычных прычын даклад Бога-Айца аб вызначэньні Ягонаму Сыну мейсца на ратушы прыходзіцца адкідаць...

А дзеля гэтага, што Хрыстос ёсьць учалавечанай прадвечнай мудрасьцю, можа-б неба захацела спрабаваць дабівацца, ці не найшлося-б мейсца Хрыстовых народзінаў у вышэйшай навуковай установе? Унівэрсытэцкі сэнат тады-б на доўгім паседжаньні разглядаў пытаньне: ці мог-бы Хрыстос нарадзіцца на грунце вышэйшай школы? Праўдападобна ўказвалі-б на тое, што навука йдзе ў еднасьці й згодзе з Богам на грунце «вышэйшых» асягненьняў, з другога боку аднак клалі-б асаблівы націск на тое, каб не нарушаць чыста навуковага характару, характару ўнівэрсытэту, зьбліжаючы яго з рэлігіяй. Дык і гэную квэстыю прышлося-б вырашыць адмоўна. Бо... няма мейсца.

Зварот да сьвятыні мастацтва меў-бы таксама ня іншы вынік. Літаратура, малярства, музыка і т. п. маюць чыста артыстычныя мэты, імкненьні да пазамастацкіх уплываў ня могуць быць дапушчаны. Праўда, рэлігія дае многа багатых мастацкіх матываў для выкарыстаньня; з другога аднак боку мастацтва ня можа пазволіць замкнуцца ў граніцах аднае дзяржавы, яно толькі прызнае бездзяржаўнае валадарства прыгожасьці. Мастацтва, бач, ня можа быць хрысьціянскім, так як ня можа ім быць хварба, папера ці палатно...

Сьвяты Язэпе! Адважся на яшчэ адну нясьмелую спробу: бачыш, вунь там тыя вялікія таварныя склады, фабрыкі й банкі? Там ня ўсе куткі заняты, дык мо' там знойдзецца мейсца? Дарма! Гэта прыбыткі й склады людзей-гаспадароў. Якое дзела Хрысту да каменнага вугольля, да жалеза ці шоўку? І хоць сьвяты Язэп пратэстуе, спасылаецца на першае падстававае права катэхізму, паводле якога Бог ёсьць Стварыцелем і найпершым гаспадаром, — людзі чыста гаспадарчых перакананьняў з прычын чыста тактычных мейсца Хрысту (Ягонай праўдзе) адмаўляюць так-жа.

Дык так — то прынцыпова, то з прычын тактычных — адна дзялянка за другою адмаўляецца ад уплываў Праўды. Няма ўжо зусім мейсца Валадару ў сваім уласным валадарстве.

Сапраўды богабойства, дакананае на Галгофце, было шляхатнейшае, менш крывадушнае, было больш людзкім, як гэтае злоўхмыльнае, скрыта разбойніцкае душэньне Праўды, адыманьне ёй паветра, сьвятла і мейсца. І не зьмяняе тутака паложаньня прысутнасьць ці адсутнасьць добрае або злое волі. Што нам за прыбытак з таго, што прынцыпова дазваляецца нам жыць, а тактычна ці фактычна даводзіцца да паступовага заміраньня, да сьмерці?

Мейсца! Прастору якнайболей для ўсяўладнага Валадара!!!

— З.

# Патрэба веры

У рэлігійным значэньні слова — вера — мае той самы сэнс, што і ў штодзенным ужыцьці, значыць: прымаць за праўду тое, што нехта за праўду падае, дзеля павагі таго, хто аб гэтай праўдзе гаворыць.

У гэткім значэньні вера ёсьць неабходнаю ўва ўсіх галінах жыцьця ня выключаючы нават навукі, дзе на першы пагляд ўсеўладнаю ёсьць веда. Людзі на ўсіх ступенях разумовага разьвіцьця ня могуць абыйсьціся бяз веры.

Дзіця пазнае сьвет і жыцьцё веручы паясьненьням сваіх бацькоў; вучань пазнае тайніцы навукі веручы сваім настаўнікам; вучоны разьвівае свае веды веручы іншым вучоным; чалавек пазнае Бога і надпрыродны парадак веручы Божаму абʼяўленьню — такі парадак сьвету, так уладжана жыцьцё.

Калі аднак ваюючыя бязбожнікі ўзьнялі бунт супроць Бога, дык з асаблівым напорам супроцьставіліся веры, кажучы, што для іх у жыцьці няма мейсца веры, яны карыстаюцца толькі ведаю. Паводле іх вера абядняе розум. Да якое меры гэткае цьверджаньне беспадстаўнае і недарэчнае найлепш пераканацца із слоў самых-жа марксістоўскіх вучоных.

Ведамы савецкі вучоны О. Д. Хвольсон яшчэ ў 1916 г. у петраградзкім унівэрсытэце чытаў лекцыю на тэму: «Веда і вера ў фізыцы», дзе між іншым кажа: «Варта толькі крыху падумаць, каб уцяміць, што веда і вера цесна пераплятаюцца і няма магчымасьці хоць з прыблізнаю дакладнасьцю азначыць іх граніцы». Наступна вучоны падзяляе фізыку на тры часьці: да першае адносіць зьявы якаснага характару; да другое — колькасныя законы; да трэцяе — паясьненьне зьяваў. Ува ўсіх гэтых часьцях вучоны выказвае непадзельнае валадарства веры. «У закон мы мусім і можам амаль толькі верыць». Але «галоўная сутнасьць фізыкі, як навукі, зьмяшчаецца ў трэцяй часьці, у будаваньні аснованым на азначаных гіпотэзах... У гэтай якраз часьці, якая зьяўляецца сутнасьцю фізыкі, як навукі, і якаяператварае фізыку з канглямэрату разрозьненых фактаў і законаў у стройную навучную будову... там для ве-

**ды** няма мейсца, але выключную ролю грае **толькі вера»**. Пасьля гэтага вучоны дадае: «Той, хто ўважае, што быццам ў навуцы вера ня грае ніякае ролі, і што навука перапоўнена ведаю, што мы ведаем вельмі шмат, а магчыма і ўсё — той пераацэньвае пазнавальную здольнасьць чалавека, бязьмежна расшырае абсяг быццам пазнавальнага, і, няўпрыцям для сябе, упадае ў грубейшыя памылкі. Ён пачынае хварэць быццам маніяю ўмысловае вялікасьці, уважаючы, што для яго ня існуюць сусьветныя загадкі, што ў яго гатовае для іх поўнае вырашэньне. Вось на тэткім груньце вырас той сумны плод навучнага недаразуменьня, які называецца матэрыялізмам, і які ў сучаснасьці канчае сваё бясплоднае існаваньне»*).

Ня менш цікавая і вартасная заява ў гэтай справе марксістоўскага філязофа Борохова. Ён кажа: «Вера ёсьць якраз узмоцненаю ведаю; узмоцненаю, пэўне-ж, не лягічна, але эмацыянальна. Чалавек веручы ў нешта, ня толькі знае нешта, але і хоча, палка жадае, каб яно было якраз так, а ня інакш. Бяз сумніву навуцы ня чужая вера ў гэткім сэнсе; сацыяльная навука вельмі часта карыстаецца гэткаю вераю; прагноз будучыні ў сацыялёгіі, часам нават некаторыя аналізы сучаснасьці, ахварбаваны ў густы пачуцьцёвы калярат. З чыста тэарэтычнага боку прагноз, магчыма, і слабейшы за пазнаньне, бо ў значнай ступені аснаваны на прыпушчэньні, на праўдападобнасьці, але з эмацыянальнага боку ён трывалейшы, больш стойкі за ўсякую ўпэўненую веду. Так эмацыянальна падмацаваны элемэнт прагноза мы і называем «навуковаю верою»**).

Гэтыя тэарэтычныя меркаваньні марксістоўскіх вучоных маюць сваё пацьверджаньне на кожным кроку ў практыцы і паводзінах бязбожнікаў. Нават у тым асяродзьдзі, дзе з усёю рашучасьцю выступаюць супроць рэлігійнае веры, бяз веры аніяк абыйсьціся ня могуць; наадварот у гэткім асяродзьдзі з усёю яскравасьцю праяўляецца непераможнае жаданьне людзкое душы, быццам ненасытны голад, да глыбейшага жарала веры. Не патрэбна шмат дасьледжваць, каб пабачыць, што:

бязбожнікі адкідаюць хрысьціянскія праўды веры, але затое верацъ у свае самыя недарэчныя тэорыі і гіпотэзы,

адкідаюць сьвятых — пакланяюцца розным «выдатным» людзям, між якімі не бракуе такіх, што замест цнотаў часта на сумленьні маюць людзкую кроў,

адкідаюць іконы — уводзяць культ сваіх партрэтаў,

адкідаюць сьвяты — уводзяць урачыстыя дні, угодкі, юбілеі,

адкідаюць Багаслужэньні — уводзяць урачыстыя зборкі, акадэміі,

адкідаюць працэсыі — уводзяць маніфэстацыі і парады,

адкідаюць паломніцтвы — уводзяць розныя экскурсыі,

адкідаюць сьвятароў — твораць кадры агітатараў,

адкідаюць сьв. Тайны — уводзяць розныя банкеты,

адкідаюць послух Божым прыказаньням — уводзяць тэрор,

адкідаюць сьв. Пісаньне — прымаюць як бясспрэчную праўду тэорыю гістарычнага матэрыялізму, творы клясыкаў сацыялізму, за рамкі якіх ня выходзяць ні на крок,

адкідаюць Эўхарыстычную ахвяру — вымагаюць нязьлічаных ахвяраў для сваіх ідэалаў,

насьмяхаюцца з мошчаў сьвятых, а самі будуюць маўзалеі для сваіх правадыроў.

І нашто рабіць гэты тандэтны падмен, нашто сябе сьведама ашукваць, калі ў гэтым усім няма ніякага сэнсу? Дайшло да таго, што некаторыя пачалі сьведама тварыць розныя бязбожныя лягэнды. Відаць у чалавека Вышэйшаю Сілаю — Самым Богам — глыбока ў душу ўложана патрэба ўзьняцца па-над штодзеннае і матэрыяльнае жыцьцё ёсьць непераможнае імкненьне да нечага больш узьнёслага, як тое, што даступна нашым змыслам. Гэтага імкненьня і жаданьня нельга заспакойваць на даўжэйшы час нейкім падманам, як галоднае дзіця пустою соскаю. Людзкая душа патрабуе духовае стравы, якая знайходзіцца толькі ў сьвятой веры, што яе нам падае Богам устаноўленая Хрыстовая Царква.

# Асновы беларускага партыятызму

Калі зьвернем ўвагу на слова Бацькаўшчына, дык хутка спасьцеражэм шырыню яго зьместу і багацьце значэньня.

Яно зьмяшчае перадусім географічную краіну, апранутую ў лясы, рэкі, вазёры, палі і лугі. Яно прыводзіць на памяць той клімат, у якім расьцьвітае краса прыроды, сьпякоты і марозы.

Далей — бацькаўшчына гэта людзі, гэта іх сем'і злучаныя ў адзіны народ. У слове бацькаўшчына таіцца, як зачараваная вякамі здабываная і глыбока перажываная культура народу; яго звычаі, абычаі.Быць можа, нечая бацькаўшчына ёсьць

---

*) О. Д. Хвольсон. «Знание и вера в физике». Петроград 1916 г. б. 2-14.

**) Б. Борохов. «Виртуализм и религиозно-эстетическая проблема в марксизме». Выд. «Молот», 1920 г., б. 63.

слаўная з небадзёрных гораў, з прыродных багацьцяў, але праўдзівае велічы бацькаўшчыны, што паўстае з натугі людзей, нішто не заступіць. Славу бацькаўшчыны твораць тыя, што змаглі падняцца вышэй шэрага натоўпу ў маральным і грамадзкім жыцьці, у навуцы і мастацтве.

Адгэтуль бачна, што на паняцьце бацькаўшчыны складаецца часткова тое, што ад людзей не залежыць, але так-жа, і то ў першую чаргу, тое, што ў данай краіне стварылі людзі працай сваіх рук, розуму і волі.

Бяз сумніву Беларусь заслугоўвае, каб справядліва магла называцца нашай слаўнай бацькаўшчынай.

Яе географічна-этнаграфічныя межы выдзяляюцца выразна ўжо ад XII стагодзьдзя. Яе гісторыя — сёньня на жаль адныйі забытая, іншымі сьведама забываная — гэта сьцяг стагодзьдзяў. Калі нашы суседзі расейцы мусілі насіць татарскае ярмо, а іх князі і ўладыкі рабапакорна выкупліваць ярлыкі, у нас тады ўжо пачынала красаваць сваяродная асьвета, пачынала разьвівацца наша пісьменства. Нам трэба помніць, што беларуская мова і правадаўства ўстаткаваліся й пашырыліся куды раней, чымся ў нашых суседзяў.

XVI стагодзьдзе прынялося ў нас называць залатым, бо тады паўсталі найвялікшыя памяткі нашае культуры, як біблія Францішка Скарыны на беларускай мове, як Статут В. Княства Літоўскага й інш. Гэта сьведчыць, што наша мова тады ўжо была ня толькі мовай народных гушчаў, але так-жа і вучоных і дыпляматаў. Гэта быў час, калі — як прыгожа кажа Купала — беларус «роднаму слову ўмеў кніжны даць ход».

А што-ж казаць аб хараstве нашае старонкі?! Даволі раз у жыцьці праехаць па сініх водах Нарачы, Нёмна, або Дзьвіны, даволі заглянуць у палескую глуш, хоць адзін раз нырнуць у лясы Белавежы, або паслухаць сасновага гоману нашых бароў, каб паўтарыць за паэтам:

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў,
Што мілей у сьвеце Божым
Гэтых сьветлых берагоў...

**Любоў да Бацькаўшчыны.**

Апрача ўспомненага вершу Якуба Коласа ў нашай адраджэнскай літаратуры знайходзім шмат прыгожых твораў аб Бацькаўшчыне і аб любові да яе.

Там знайходзяцца праніквутыя пачуцьцём творы Канстанцыі Буйло, глыбокія зьместам і прарочыя творы Янкі Купалы, Андрэя Зязюлі, сакавітыя й ядраныя вершы М. Танка, Н. Арсеньнявай і г. д., і г. д.

Колькі ў творах нашых паэтаў чуласьці, колькі красы і гармоніі?! Усё гэта складалі яны на аўтар Маці-Беларусі; складалі яе дзеці ў парыве любові да яе, або ў хвілінах тугі па ёй.

Аднак у вершах нашых паэтаў між шматлікімі матывамі любові да бацькаўшчыны, якія ў іх сустракаем, якія можа даць красуня прырода, або туга ці ўспамін па днёх маладосьці пражытых пад роднай страхой, мала сустракаем тых глыбейшых матываў любові да Бацькаўшчыны.

Вось-жа тут хочам зьвярнуць увагу на гэтыя матывы.

Адзін з найвялікшых багасловаў, Тамаш Аквінскі, у сваёй працы «Сумма Багасловіі», там дзе разважае над пашанай і адносінамі да другіх, піша: «Трэба згадзіцца, што не ў аднолькавы спосаб чалавек застаецца даўжніком іншых; гэта залежыць ад велічы й значэньня таго, ад каго мы атрымоўваем пэўныя дабрадзействы. Заўсёды аднак Бог займае першае мейсца, бо Ён найвялікшы дабрадзей, Ён крыніца нашага быцьця і ягю кіраўнік. На другім мейсцы пасьля Бога, крыніцай нашага быцьця і яго кіраўнікамі зьяўляюцца бацькі і бацькаўшчына, цераз якіх мы прыйшлі на сьвет і якія нас узгадавалі. Дзеля таго паколькі сутнасьцяй рэлігіі зьяўляецца аддаваньне чэсьці Богу, патолькі сутнасьцяй адданасьці і паважаньня нашых туземных дабрадзеяў, зьяўляецца пашана і чэсьць бацькоў і Бацькаўшчыны. Пад словам «бацькі» разумеем так-жа ўсіх родных і сваякоў, бо таму-ж яны нам і родныя, што маюць пачатак ад тых самых бацькоў. Паняцьце Бацькаўшчыны абыймае так-жа ўсіх грамадзян і ўсіх яе прыхільнікаў...»

Паводле Тамаша Аквінскага мы ўсе зьяўляемся даўжнікамі Бога, бацькоў і бацькаўшчыны, і то з падобных прычынаў, толькі не ў аднолькавай меры. Даўжнікамі Бога, бо ад Яго маемо быцьцё; ад Яго залежым ня гледзячы на тое, ці мы гэта прызнаём, ці не. Ён адзін толькі слушна можа быць называны Тварцом, бо Ён зь нічога творыць усё існуючае.

Даўжнікамі бацькоў — бо яны так-жа спрычыніліся да нашага заіснаваньня, да нашага ўпарадкаванага жыцьця. Але так-жа мы зьяўляемся даўжнікамі Бацькаўшчыны, каторая бярэ на сябе вялізарную частку як нашага існаваньня, так і ўзгадаваньня.

Богу мы сплачваемся, паважаючы Яго надусё, аддаючы Яму чэсьць, і то чэсьць, якую нікому іншаму апрача Богу ня маем права аддаваць — чэсьць Божую, **cultus latriae.**

Бацьком і Бацькаўшчыне мы сплачваемся, паважаючы іх, любячы іх, але чэсьцю і любоўю сказаў-бы другараднай, каб адрозьніць ад той чэсьці першараднай, якую аддаём толькі самому Богу.

Вось стройная іерархія: Бог, Бацькі, Бацькаўшчына; ад іх жыцьцё, ад іх наш пачатак- існаваньне, ад іх наша ўзгадаваньне, ад іх так-жа й наша веліч. Для іх-жа дзеля таго чэсьць, паважаньне, любоў. З гэтых трох зьвеньняў ня толькі адно другому не перашкаджае, але адно дру-

гое падтрымоўвае, адно другое ўмацоўвае. Выкінуўшы Бога, мы мусілі-б стварыць самі нейкага ідала, каб выясьніць адкуль сьвет і быцьцё на сьвеце.

Тут вырынае пытаньне: ці можна любіць належна Бацькаўшчыну, ня верачы ў Бога?

Можна, але ня зусім. Ёсьць розныя ступені і адмены любові. Любоў бяз Бога спадзе вельмі нізка; яна абмяжуецца выключна да кустоў, палёў, водаў ды лясоў, часам ўспомніць аб мінуўшчыне, але ўсё гэта будзе больш зьвярынае чым людзкое. У чалавека на першым мейсцы вымогі розуму й волі; каб іх задаволіць, трэба сягнуць да апошніх, глыбейшых прычын. Выкідаючы Бога, адкідаем першапачатковую прычыну, найважнейшую прычыну любові да прадмету, які любім. Любоў Бацькаўшчыны бяз Бога выглядала-б наступна: Зьвяртаецца маці да свайго сына з пытаньнем: «Пятрусь, любіш ты маму?

— Люблю.

— А за што ты мяне любіш?

— Бо ў мамы прыгожыя валасы»...

---

Божа, люблю Цябе за магутны акт стварэньня, за мэту — вечнае шчасьце, якое Ты мне прызначыў, і да якога імкнуся, за тое, што мне прызначыў добрых бацькоў беларусаў!..

Тата і Мама, люблю я Вас, бо вы былі паслушнай прыладай Усемагутнага, захоўваючы Яго права, адчынілі мне сьвет, узгадавалі чалавекам!..

Беларусь, мая айчына, люблю цябе, бо ты згодна з воляй Усемагутнага, вякамі карміла маіх прадзедаў і сьцеражэш іх славу і косьці. Ты не забылася аб Богу, Ты чароўнай красой мяне паіла і ўзгадоўвала сваімі сокамі, пакуль чужацкае насільле ня вырвала мяне з тваіх абыймаў!..

Вось асновы беларускага патрыятызму Бог, Бацькі, Бацькаўшчына.

**Адхіленьні ад праўдзівай любові да Бацькаўшчыны.**

Такі ці іншы край Бог розна прызначае народам. Калісь у часе Старога Запавету сам Бог паказваў шляхі й спосаб заняцьця абшараў для выбранага жыдоўскага народу, але гэта было таму, каб стварыць адпаведныя вонкавыя абставіны, спрыяючыя для выкананьня пасланства Збаўцы сьвету, Бога-Чалавека.

Звычайна аднак Бог вызначае людзям на бацькаўшчыну той край, дзе яны нараджаюцца і ўзгадоўваюцца, або дзе справядліва зжыліся, заняўшы вольныя ці малалюдныя прасторы.

Цаніць і любіць сваю бацькаўшчыну — гэта разумна адносіцца да прыродных дараў, даных нам Богам.

Здараюцца аднак розныя адхіленьні ад сапраўднай любові бацькаўшчыны. Вось галаўнейшыя зь іх.

Першы адхіл — гэта вузкі нацыяналізм, або шавінізм, які лічыць свой край, свой народ за першы ў сьвеце і найдасканальшы; сваю гісторыю за найслаўнейшую; сваю мову за найпрыгажэйшую, ня лічачыся зусім з праўдаю і сапраўднасьцю. Дзеля таго шавініст не шануе іншыя народы чі і мовы, ні культуры. Гэткае становішча зьяўляецца праступным супроць свайго народу, бо прыпісвае свайму народу якасьці божыя, Які адзіны ёсьць поўнасьцю дасканалы. Шавініст крыўдзіць іншыя народы, бо часта беспадстаўна паніжае іхнюю мову й культуру, ды перашкаджае разумна карыстацца асягненьнямі іншых культураў і цывілізацыяў.

Наступным адхілам ёсьць космапалітызм і камуністычны інтэрнацыяналізм. Космапалітамі бываюць найчасьцей багачы і арыстакраты, для каторых абыякава дзе жыць, абы толькі мець удоваль грошаў і выгоды жыцьця. Касмапалітамі зьяўляюцца так-жа жыды й цыганы. Але і між жыдоў сёньня стае, што раз мацнейшым сыёністычны напрамак, які мае на мэце давясьці зноў ўсіх жыдоў да іхняе даўнае бацькаўшчыны Палестыны.

Камуністычны інтэрнацыяналізм, пакідаючы пакуль што кожнаму народу слова «бацькаўшчына», фармальна замяняе яго ідэалам-утопіяй, — раем пралетарыяў, — які меў-бы наступіць некалі ў будучыні. Аднак на прыкладзе тых народаў, што іх камунізм здолеў паняволіць, бачым, як той рай выглядаў-бы.

Калі-б мы прыраўнялі камуністычны інтэрнацыяналізм з хрысьціянскім унівэрсалізмам, дык хутка пераканаемся аб вялізарнай розьніцы між імі. Пакольні камуністычны сьветапагляд ня лічыцца з натуральнымі патрэбамі народаў, і ў ахвяру сваім мроям складае істотныя элемэнты любові да бацькаўшчыны, дык хрысьціянскі унівэрсалізм працягвае руку да здаровых нацыянальных імкненьняў усіх народаў, багаслаўляе іх і асьвячае; ён толькі стараецца ўтрымаць іх у рамках хрысьціянскай маралі і ўсялюдзкага сужыцьця.

Трэцім адхілам вельмі нізкім і брыдкім у адносінах да бацькаўшчыны ёсьць выračэньне яе, або рэнэгацтва.

Бываюць часам абставіны, што чалавек у імя дабра той-жа самай бацькаўшчыны ёсьць змушаны прамаўчаць сапраўднае імя свае народнасьці ці бацькаўшчыны, але гэта толькі ў выняткових абставінах. Аднак доўгае замоўчваньне свайго народнага імені і свае бацькаўшчыны, асабліва калі яе крыўдзяць, і калі трэба выступіць у абароне яе правоў, сьведчыла-б ня толькі аб малавартаснасьці таго. хто так паступаў-бы, але было-б для яго ганьбаю.

Калі мы сёньня набіраем моцы і пачуваем сілу ў словах Бацькаўшчына-Беларусь, гэта перадусім дзеля гэраізму й крыві нашых братоў, якія сьведама пралілі яе за Бацькаўшчыну, як доказ свае вялікае і шчырае любові да яе.

**а. др. Ч. Сіповіч.**

# Агляд сучаснага паложаньня Праваслаўнае Царквы

Апошняя сусьветная вайна прынесла з сабою паважныя зьмены ў некаторых краінах, што асабліва выразна відаць у рэлігійным жыцьці. Таму, што ў бальшыні краінаў, якія спакаліся вока ў вока з «новым ладам» раней пануючым веравызнаньнем было Праваслаўе, дык таму самазразумелая цікавасьць пазнаць сучасны стан Праваслаўнае Царквы. Для лепшае арыентацыі пастараемся коратка агляну́ць агульны стан Праваслаўнае Царквы ў сучаснасьці па колькі гэта магчыма ў рамах аднаго артыкулу. Пераходзячы паазбучна краіны абмяжуемся падаваньнем самых фактаў.

**АМЭРЫКА.**

У праваслаўных царкоўных адносінах паасобныя дзяржавы Паўночнае і Паўдзённае Амэрыкі становяць суцэльнасьць, бо ерархі некаторых Праваслаўных Цэркваў маюць юрыздыкцыю аж на некалькі дзяржаваў. Вернікамі зьяўляюцца эміграты. Найболыш шматлікая з усіх амэрыканскіх Праваслаўных Цэркваў ёсьць Расейская, толькі цяжка сказаць каторая зь іх, бо ёсьць іх аж тры:

1) Расейская Амэрыканская Прав. Царква залежная ад Зарубежнага Рас. Архіепіскапскага Сыноду ў Мюнхэне мае 7. ерархаў з арх. Віталіем на чале.

2) Экзархат Маскоўскага Патрыярха на чале з арх. Макарыям. У сучасны мамэнт там адбываюцца паважныя пэрсанальныя зьмены. Відаць выразна тэндэнцыя замяніць епіскапаў сучаснымі савецкімі. У 1943 г. высьвяцілі ў Маскве і прыслалі для Паўдзённае Амэрыкі еп. Феодара.

3) Амэрыканская «Аўтакефальная» Прав. Рас. Царква на чале з мітр. Феафілам. Перагаворы з Маскоўскім Патрыярхам аб афармленьні гэтае аўтакефаліі не давялі да ніякага выніку. Вялікі процант вернікаў гэтае царквы складаюць Украінцы з Закарпацьця і Беларусы.

Акрамя расейскае Царквы ёсьць яшчэ:

4) Баўгарская Прав. Царква ў Амэрыцы. Упраўляе ёю еп. Андрэй залежны ад Экзарха ў Баўгарыі.

5) Сэрбская Прав. Царква ў Амэрыцы. Ёю ўпраўляе арх. Діанісі, залежны ад Патрыярха ў Белградзе, але выразна варожы сучаснаму Югаславянскаму ўраду.

6) Праваслаўная частка украінскае эміграцыі мае некалькі сваіх цэркваў. У Злучаных Штатах ёсьць т. з. Украінская Прав. Царква З.Ш.А. на чале з арх. Іванам (Тэодоровічам), а ў Канадзе т. зв. Украінская Грэко - Праваслаўная Царква ў Канадзе. Гэта адна з першых украінскіх Цэркваў, паўстала яшчэ ў 1919 г. зусім незалежна ад Аўтакефальнае Укр. Царквы. Спачатку яна была пад апекаю грэцкага епіскапа, але ў 1924 г. прыехаў у ЗШПА арх. Іван ад УАЦ і абняў управу над абедзьвюма украінскімі Цэрквамі (у ЗШПА і Канадзе). Цяпер на запросіны Укр. Грэка-Прав. Царквы ў Канадзе дня 13-IX-1947. прыехаў туды еп. Мсьціслаў (Скрыпнік з ерархіі УАЦ) і на аснове пастановаў надзвычайнага Сабору пераняў яе ўправу.

7) Грэцкая эміграцыя мае свайго епіскапа, толькі невялікая частка так зв. старакалендарнікаў нядаўна паддалася Рас. Зарубежна-Прав. Царкве.

Беларуская эміграцыя, хоць лікам сягае некалькі сот тысяч чалавек і ў аграмаднай бальшыні праваслаўная, уся належыць да расейскіх праваслаўных цэркваў.

**АНГЛІЯ.**

На абшары Англіі да нядаўна праваслаўных было ня шмат, толькі старэйшая расейская эміграцыя. Зарганізаваная яна была ў некалькі прыходаў залежных ад епіскапаў у Францыі. Цяпер яны падзелены на два варожыя лягэры: адны прызнаюць Зарубежны Сынод і падлягаюць еп. Нафанаілу, а другія залежныя ад Экзарха мітр. Уладзіміра, свайго часу выявілі выразныя прамаскоўскія тэндэнцыі.

Ад часу пераезду ў Англію арміі гэн. Андэрса, адначасна перанеслася туды ўправа Польскае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы на чале з арх. Савваю, якой падлягаюць быўшыя грамадзяне Польшчы. Там-жа знайходзіцца добра ведамы Беларусам з віленскіх падзеяў у 1938 г. еп. Матвей (Семашко).

**АЎСТРЫЯ.**

Сучасны падзел Аўстрыі адбіваецца так-жа і ў рэлігійных адносінах. Прадстаўніком Расейскага Зарубежнага Сыноду ёсьць арх. Сьцяпан, (Сеўбо) раней беларускі, а прадстаўніком Маскоўскага Патрыярха — арх. Сергей (Королев), які рэзыдуе ў Вене. Іх прыходы большаю часткаю месьцяцца ў лягэрах, але ўкраінскія лягэры маюць сваіх сьвятароў.

**АЎСТРАЛІЯ.**

Праваслаўная эміграцыя Аўстраліі падлягае Рас. Заруб. Сыноду. Толькі ў гэтым годзе назначаны туды асобны еп. Феодор, раней украінскі аўтаномны з Роўна.

**БАЎГАРЫЯ.**

Аўтакефальная Баўгарская Прав. Царква ўтворана супроць волі Візантыйскага Патрыярха ў 1870 г. і за гэта была ў адлучаньні да 1945 г.

Толькі пад уплывам Маскоўскага патрыярха Візантыйскі патрыярх 22-XI-45 г. прызнаў Баўгарскую Аўтакефалію. Сёньня ёю кіруе Экзарх мітр. Сьцяпан Сафійскі. Яна налічвае каля 4-х мільёнаў вернікаў, 2.600 сьвятароў і 15 архірэяў.

Расейская эміграцыя ў Баўгарыі падлягае арх. Серафіму, які залежыць упрост ад Маскоўскага Патрыярха.

**БЕЛАРУСЬ.**

У сучасны мамэнт на абшары Беларусі ёсьць толькі эпархія Расейскае Прав. Царквы, а на эміграцыі епархі Беларускае Прав. Царквы самавольна прысталі да Расейскае Зарубежнае Царквы. Дакладней аб гэтым глядзі Нр. 1 нашага часапісу.

**БЭЛЬГІЯ.**

Праваслаўная эміграцыя ў Бэльгіі падзелена між Зарубежнаю Царквою і Парыскім Экзархам мітр. Уладзімірам. Свае епархіі ня мае.

**ГРУЗІЯ.**

Аўтакефальная Грузінская Царква ўтвораная ў 1917 г. была ў адлучаньні да 31-X-1943 г. Цяпер яна ў згодзе з Маскоўскім Патрыярхатам і іншымі Царквамі, на яе чале стаіць каталікос Калістрат (Цінцадзе) з чатырма падуладнымі архірэямі.

**ГРЭЦЫЯ.**

Грэцыя мае сваю Аўтакефальную Прав. царкву прызнаную Візантыйскім патрыярхам у 1850 г. і ўпраўляецца Афінскім Сынодам, мае 6 мільёнаў вернікаў, 88 архірэяў і 7.054 сьвятары.

**ЕГІПЕТ.**

Мяйсцовых праваслаўных у Егіпце ўсяго 55000 вернікаў, яны маюць патрыярха ў Александрыі. Сёньня патрыяршы пасад займае Хрыстафор II, Папа і Патрыярх Александрыйскі.

Праваслаўная эміграцыя перш усё падлягала Рас. Зарубежнаму Сыноду, але 4-7-1945 г. у Александрыі ўтварыўся прыход, які падлягае Маскоўскаму патрыярху.

**КІПР.**

На гэтым абтоку, залежным ад Англіі, знаходзіцца каля 36.000 праваслаўных грэкаў, над якімі душпастырскую апеку мае Аўтакефальная Кіпрская Царква. Даўжэйшы час яе паложаньне было вельмі заблытаным. У мінулым годзе ўладу атрымаў арх. Леанід, але 18-7- 47 ён памёр, і тымчасова кіруе Царквою яго намесьнік арх. Макар Кірынейскі.

**КІТАЙ.**

У Кітаі Праваслаўная Царква складаецца пераважна з старэйшых расейскіх эмігрантаў і перш уся падлягала Рас. Заруб. Сыноду, але 26-7-1945 г. частка епархаў перайшла ў юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярха і ад тады створаны Маскоўскі Экзархат, на чале якога сёньня стаіць арх. Нестар.

Прадстаўніком Рас. Архір. Заруб. Сыноду ёсьць арх. Іван (Максімовіч).

**ЛАТВІЯ.**

Аўтакефальная Латв. Прав. Царква, што была ў незалежнай Латвіі, ніколі ня была прызнана Масквою, калі ў 1940 г. у Вільні зьявіўся экзарх Маскоўскага местапатрыярха мітр. Сяргей, дык ён зусім адлучыў ад Царквы латвійскіх епархаў мітр. Аўгустына і еп. Івана. Мінулага году Рас. Заруб. Сынод зьняў зь іх адлучэньне і прыняў да сябе. На абшары Латвіі цяпер тая самая Царква, што і ўва ўсім Сав. Саюзе.

**МАДЗЯРШЧЫНА.**

Невялікі лік праваслаўных мадзяраў і інш. на чале з адміністратарам а. Іванам Олах ад 18-VIII-1946 г. падлягае Маскоўскаму патрыярху і чакае з Масквы епіскапа расейца і яго вікарыя мадзяра.

**НЯМЕЧЧЫНА.**

Сёньня, дзякуючы прысутнасьці на абшары Нямеччыны аграмаднага ліку «перасеtotal асобаў», існуе некалькі незалежных Праваслаўных Цэркваў.

1) У Мюнхэне месьціцца галоўная ўправа Рас. Архірэйскага Зарубежнага Сыноду, перанесенага сюды з Карлавіцаў. Кананічнае паложаньне гэтае Царквы даволі нявыразнае, бо тэарэтычна яна прызнае сваю залежнасьць ад Маскоўскага патрыярха, але практычна яго зусім ня слухае, паясьняючы гэта тым, што Маскоўскі патрыярх цяпер залежыць ад камуністычнае ўлады і ня можа свабодна праяўляць сваю волю, таму і ня выканалі загаду з Масквы мітр. Сяргея аб роспуску свае ўправы. Але факт, што такі загад ёсьць і не адкліканы да сёньня. Каб уніккнуць гэтага нявыразнага кананічнага паложаньня, свайго часу, адзьдзяліўся ад Заруб. Сыноду мітр. Еўлогій і стварыў Экзархат залежны ад Візантыі.

Не зважаючы аднак на гэтую няяснасьць 24-IV-1945 г. епархі Беларускае Прав. Царквы і Украінскае Аўтаномнае Царквы прылучыліся да Заруб. Сыноду.

Сёньня на чале Царквы стаіць мітр. Анастазій (Грібановскій), а яе прыходы знаходзяцца амаль ува ўсіх большых скупленьнях расейскае эміграцыі.

2) Украінская Аўтакефальная Царква на чале з мітр. Палікарпам (Сікорскім) аб'ядноўвае ў сваім Сынодзе 12 архірэяў і абслугоўвае ўсе большыя скупленьні праваслаўных украінцаў у Нямеччыне.

3) Прыходы савецкае арыентацыі падлягаюць арх. Аляксанду (Немаловскаму) ранейшаму вікараму мітр. Еўлогія.

**ПАЛЕСТЫНА.**

На абшары сьвятое зямлі ў Ерузаліме знайходзіцца найменшы праваслаўны Патрыярхат з 45.000 вернікаў. Сёньня патрыяршы пасад займае Блажэньнейшы Тымотэй Патрыярх Эрузалімскі. На абшары гэтага Патрыярхату знайходзіцца найменшая незалежная царкоўная адзінка: Аўтакефальнае Архіепіскапства Сінайскае гары, што мае ўсяго некалькі дзясяткаў вернікаў.

Расейская праваслаўная эміграцыя гуртуецца каля ранейшых царскіх духоўных місыяў пад управаю архімандрыта Антонія.

Спроба Маскоўскага патрыярха, захапіць іх пад сваю ўладу, не ўдалася, але відаць стараньні ў гэтым напрамку не закінены.

**ПОЛЬШЧА.**

Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Польшчы прызнаная Візантыйскім Патрыярхам у 1925 г. але ніколі ня прызнаная Рас. Прав. Царквою, ад якое яна адзьдзялілася, тым ня менш сёньня у самай Польшчы і на эміграцыі, яна прадаўжае сваё існаваньне. Ад 1938 г. яна зусім самавольна стала называцца Польскаю Аўтакефальнаю Царквою і гэты назоў захоўвае да сёньня. Кіраўнік яе мітр. Дзяніс знайходзіцца праўдападобна ў Атвоцку і мае двох памоцнікаў еп. Тыматэя (Штэрэр) і еп. Юрыя (Карэністаў). Другая частка ерархіі знайходзіцца ў Англіі, як аб гэтым успаміналася вышэй, рэшта ерархаў папрылучваліся да іншых Цэркваў.

**РАСЕЯ.**

Сёньня на абшары Савецкага Саюзу, з усімі яго рэспублікамі, засталася толькі патрыяршая Расейская Прав. Царква таго напрамку, што раней звалася «сергіянскаю». Усе іншых Цэрквы зьніклі. «Іосіфляне» былі вынішчаны фізычна хоць і далі пачатак катакомбнай Рас. Царкве. «Грэгорыяне » зьніклі бясьследна яшчэ да 1938 г., а жывацаркоўнікі, або абнаўленцы ўласьціва і ня зьнікалі, але з мамэнтам зьмены савецкае царкоўнае палітыкі перайшлі ў сучасную «Праваслаўную Рас. Царкву»; агулам перайшло 11 архірэяў і пару дзясяткаў сьвятароў, а іншыя рассеяліся.

Кананічнае паложаньне сучасне «Праваслаўнае Рас. Царквы» навонкі безнаганнае. Выбары сучаснага Маскоўскага Патрыярха Аляксея адбыліся на ўрачыстым і аграмадным Саборы ў 1945 г. на якім акрамя ўсіх савецкіх ерархаў былі прадстаўлены ўсе 5 усходніх Патрыярхатаў, 3 зь іх былі асабіста. Варта аднак прыпомніць, што ў 1925 г. быў ня менш паважны Сабор у Маскве з удзелам прадстаўнікоў ад Візантыйскага і Александрыйскага патрыярхаў, на якім агулам скасавана Маскоўскі Патрыярхат.

Ерархія «Рас. Прав. Царквы» навонках разрастаецца вельмі шпаркім тэмпам; калі на Саборы ў 1942 г. было ўсяго 19 ерархаў, дык у жнівені гэтага году яна мела ўжо 72 архірэі ў краю, 16 замежамі, 2 на пакоі і 1 у запрэце, за гэты час, пяць гадоў, памерла 7 архірэяў, але за тое 22 атрымала савецкія мэдалі «За доблестный труд», а сам патрыярх мае ордэн «Красната знамени».

Аб управе і кіраўніцтве гэтае Царквы найлепш відаць з залучанае схэмы.

Аб «самастойнай» дзейнасьці Маскоўскага патрыярха можна даведацца з некаторых дробных фактаў, што часам неспасьцярожна трапляюцца на бачынках «Журнала Мас. Патр.». Нядаўна прыехаў у Маскву з Харбіна еп. Ювеналій; патрыярх яго прыняў радасна, але абяцанае чалябінскае епархіі ня змог адразу даць яму з незалежных прычын, хоць яна пуставала і часова была прыдзелена Сьвярдлоўскаму еп. Товію.

Справа рэлігійнае асьветы для духавенства стаіць горш чым блага: ёсьць толькі 4 духоўныя Сэмінарыі з агульным лікам каля 200 вучняў на ўвесь Сав. Саюз і дзьве Акадэміі з 30 студэнтамі ў мінулым годзе. Аб навучаньні рэлігіі моладзі нідзе няма нават і гутаркі.

Сваё падпарадкаваньне і супрацоўніцтва з бязбожнаю ўладаю сучасныя маскоўскія ерархі выпраўдваюць тым, што не яны першыя йдуць гэткім шляхам. Нядаўна выйшла ў Маскве кніга «Патриарх Сергий и его духовное наследство», дзе між іншым доц. А. В. Ведерников, гаворачы аб мінулым Прав. Царквы ў Расеі, зазначае: «Аб легкаважных адносінах сьвецкае ўлады да духавенства, нават вышэйшага і гаварыць не патрэбна. Калі Пятро І змушаў архірэяў ладзіць у сябе ассамблеі (вясёлыя зборышчы), дык Кацярына застаўляла іх езьдзіць у італьянскую опэру. Пры той-жа Кацярыне ІІ былі два такія обэр-пракуроры, у якіх праваслаўе было больш чым сумніўным. Адзін зь іх, Мэліссіно, прапанаваў Сыноду праект царкоўных рэформаў, у якіх прадбачавалася аслабленьне і скарочаньне пастоў, скарочаньне царкоўных службаў, адмена пашаны іконаў і мошчаў, дазвол архіреэям сямейнага жыцьця і т. д. Другі обэр-пракурор брыгадзір Чебышов папросту быў недаверкам і гэтым прылюдна хваліўся» (бач. 312). Выснавак адгэтуль ясны: што іх сучаснае паложаньне лепшае, чым у мінулым за царскіх часоў.

Аб усіх тых фактах, што цяжка кампрамітуюць савецкую ўладу ў яе дачыненьнях да рэлігіі і Царквы сяньняшняя савецкая, так царкоўная, як сьвецкая прапаганда, так спрытна прамоўчваюць, што гэта выразна адбілася на замеж-




**(Увага: Пры благачынных, як і пры кожным прыходзе існуюць прыхадзкія камітэты «дваццаткі»).**

най прэсе. Толькі апошнім часам сям-там пачынаюць адзывацца цьвярозыя галасы, што раз мацней.

## РУМЫНІЯ.

На абшары Румыніі ад 1885 г. існуе Аўтакефальная Румынская Прав. Царква, якая налічвае каля 13 мільёнаў вернікаў на 16,5 мільёнаў жыхароў Румыніі. На чале гэтае Царквы стаіць сёньня Патрыярх Нікодым. Ад нядаўна мінулых ваенных падзеяў Румынская Царква пацярпела параўнаўча найменш і сучаснае яе палажэньне мала чым розьніцца ад даваеннага. Навучальныя рэлігійныя ўстановы асталіся тыя самыя, што былі да вайны. Пакуль што Румынская Царква тэарэтычна мусіла ўвайсьці ў бліжэйшыя і прыязьнейшыя зносіны з Маскоўскім патрыярхам, але аб канкрэтных зьменах пакуль што вестак няма.

## СІРЫЯ — ЛІБАН.

Мяйсцовая праваслаўная Царква нешматлікая падобна, як ерузалімская, мае аднак свайго патрыярха, якім сёньня ёсьць Блажэньнейшы Аляксандар III Патрыярх Антыохіі і ўсяго Усходу. У нядаўным мінулым Антыохійскі Патрыярх быў у паважных нялададах з Візантыйскім з нацыянальна-палітычных прычынаў, але ў сучасны мамэнт гэтыя нялады прыціхлі.

Праваслаўная расейская эміграцыя ў Сірыі ад 1946 г. падзелена на два варожыя табары. Адны, на чале з архімандрытам Гэрманам, прызнаюць, як і раней, Зарубежны Сынод, а другія, на чале з архімандр. Сымонам, прызнаюць Маскоўскага патрыярха.

## ТУНІС.

Праваслаўная эміграцыя, пераважна расейская, падзелена так-сама, як і ў Сірыі.

## ТУРЦЫЯ.

У магамэтанскай Турцыі ў Канстантынопалі мае сваю рэзыдэнцыю Візантыйскі патрыярх, што мае тытул Усяленскага. Сёньня патрыяршы пасад займае Блажэньнейшы Максім. На невялікі лік вернікаў, каля 150.000 маецца вельмі шматлікая ерархія: 79 мітрапалітаў і 19 вікарных епіскапаў. Варта зазначыць, што на абшары Патрыярхату трымаюцца новага календара. Ува ўсіх граматах Візантыйскі патрыярх тытулуе сябе Патрыярхам Новага Рыму.

Праваслаўная эміграцыя, пераважна старэйшая расейская, на чале з архімандрытам Серафімам, падлягае Зарубежнаму Сыноду.

(Працяг у наступным нумары)

# Зьмена „новае рэлігійнае палітыкі“ у саветах

Ад мінулага году ў Савецкім Саюзе, прыціхшая на некаторы час, бязбожніцкая прапаганда ўзмацняецца што раз больш, пачынаюць перавыдавацца бязбожніцкія кнігі старых антыхрысьціянскіх пісьменьнікаў, як Цэльса і навейшых, як А. В. Мішуліна, Анд. Немаеўскага («Бог-Ісус»), праф. А. В. Ефімава (Міф Ісуса), Р. Ю Віпэра («Возникновение христианской литературы»).

Каб здабыць большы давер чатачоў, бязбожнікі стараюцца прыдаць сваім творам аблічча навуковасьці, хоць у запраўднасьці іх працы зьяўляюцца зборкамі даўно зьбітых і беспадстаўных дагадкаў. Напр. Віпэр сілуецца «даказаць», што творы хрысьціянскае літаратуры паўсталі толькі ўканцы 2-га веку, але адначасна маўчыць, як закляты, аб тым, што знойдзеныя нядаўна рукапісы, якія паходзяць з пачатку 2-га веку. Больш таго, у 1920 г. знойдзена ў Егіпце між іншымі старымі папірусамі некалькі картак егіпецкага перакладу Евангельля сьв. Івана, якія паходзяць з перад 150 г. Калі пераклад такі стары, дык сам арыгінал беспярэчна мусіць быць яшчэ старэйшы; ён мусіць сягаць канца першага веку. Евангельле сьв. Івана зьяўляецца найпазьней напісаным Евангельлем, паводле агульнае думкі багасловаў яго напісаў сьв. ап. Іван толькі ўканцы свайго жыцьця як дапаўненьне да іншых Евангельляў. Як бачым, знахадкі гэтую думку ўпоўні пацьвярджаюць. Бязбожнікі якраз і змагаюцца таму супроць Бога, каб заспакойваць сваё сумленьне ў змаганьні супроць праўды.

Побач гэтае псэўданавуковае літаратуры нядаўна зьявіліся выразныя антырэлігійныя загады. Цантральны выканаўчы камітэт камсамолу некалькі месяцаў таму апублікаваў «Дзесяць прыказаньняў камуніста», якія паводле швайцарскае каталіцкае агэнцыі Кіпа маюць такі зьмест:

1) Незабывайся ніколі, што служкі культаў ёсьць найгоршымі ворагамі камуністычнае дзяржавы.

2) Старайся зьяднаць тваіх прыяцялёў для камунізму і прыпамінай, што т. Сталін, які даў канстытуцыю расейскаму народу, ёсьць старшынёю бязбожнікаў ня толькі ў Савецкім Саюзе, але ў цэлым сьвеце.

3) Пераконвай тваіх сяброў унікаць усякае лучнасьці з сьвятарамі.

4) Сьцеражыся шпёнаў і данось паліцыі сабатажнікаў.

5) Дбай, каб бязбожніцкая прэса была шырака распаўсюджваная ў народзе.

6) Малады камуніст адначасна мусіць быць ваюючым бязбожнікам. Ён мусіць ведаць карыстацца сваёю зброяю і мець дасьведчаньне ў вядзеньні вайны.

7) Усюды, дзе толькі можаш, змагайся з рэлігійнасьцю і перашкаджай яе ўплыву на тваіх сяброў.

8) Запраўдны бязбожнік павінен быць таксама добрым агентам паліцыі. Абавязкам усіх бязбожнікаў ёсьць дбаць пра бясьпеку дзяржавы.

9) Падтрымлівай бязбожніцкі рух тваімі грашыма, якія асабліва неабходныя для нашае прапаганды замежамі, бо ў сучасных абставінах і сучасны мамэнт яе можна вясьці там толькі ўкрытым спосабам.

10) Калі ты ня можаш быць перакананым бязбожнікам, ты ня можаш быць добрым камуністам, ані запраўдным савецкім грамадзянінам. Атэізм неразрыўна зьвязаны з камунізмам. Гэтыя дзьве ідэі зьяўляюцца асноваю савецкае ўлады.

Відаць хутка мінулася так шырака расслаўленая зьмена савецкае рэлігійнае палітыкі і паволі вылазіць шыла зь мяшка з запраўдным абліччам бальшавізму.

# НА КУЦЮ

**(Абразок з 1922 г.)**

— Што ты там так доўга длубаешся з гэтымі селядцамі? Сьпяшайся Валечка. Бачыш ужо сутанее, зараз трэба да Куці прыбіраць. Казала маці, ўвіхаючыся каля печы.

— Я ўжо канчаю. Мама, а на колькі кавалкаў іх рэзаць?

— Чаму-ж на колькі? Ці-ж ты ня ведаеш колькі нас ўсіх? На тры.

— А я парэжу на чатыры.

— Чаму?

— А як тата прыйдзе.

— Што табе ў галаву прышло? Шаламіла ты, адкуль ён прыйдзе? Можа ўжо яго беднага костачкі вецер дзе паразвейваў... Каторы год ні слуху ні духу...

— Мама! Вось будзеце бачыць, што прыйдзе. Я вам нешта скажу.

— От гэтае тваё нешта...

— Помніце, мама, як была ў нас цётка і казала, што малітва і з дна мора дастае, дык ад тады я ўсё малілася, каб Бог нам тату вярнуў, а ў мінулую нядзелю мы разам з Росьцям прасілі Божае Маці, каб на самы Сьвяты вечар к нам прыйшоў тата. А сёньня ўночы тая самая Божа Маці, якая ў нас у царкве на абразе намаляваная з маленькім Хрыстом на руках, прыйходзіла да нас у хату і маленькі Хрыстос мне казаў: «Будзеш радавацца».

— Сёньня ты гэта сьніла?

— Сёньня. Ён гэтак во рукою мне паказаў ды ўсьміхнуўся...

— Мусіць выдумала нешта? Чаму-ж ты мне раней не сказала?

— Бо забылася.

— Дзе яму вярнуцца? Падумаць толькі, каторы год?.. Іншыя цепярся папрыходзілі, або хоць аказаліся, а ён як напісаў, што ў нямецкім палоне, дык і сьлед прапаў. Ужо калі цара скінулі, калі палякі прыйшлі, і вайна скончылася, а ад яго ні славечка. Каб які жыў, дык-бы аказаўся, быць ня можа.

Раптам адчыніліся дзверы і пакаціліся па падлозе марозныя клубы пару, а сьледам за імі паказаўся на парозе дзесяцігадовы хлапец з ахапкам сена на руках.

— Зачыняй барждждэй зьдьверы. Ды ці ты толк маеш? Гэтулькі сена прывалок!

— Ці-ж гэта многа? і на стол і на покуць...

— Ну нясі ўжо, ды не растрасай тут.

— Пачакай, пачакай, Росьця, я прыму настольнік.

— Куды ты з уквэцанымі рукамі; вось канчай сваё. Маці сама зьняла настольнік. Ну, во, кладзі.

— Мамачка, я яшчэ зьлётаю па ялінку?!!

— Божа мой, з гэтым хлапчанём! Учапіўся за гэтую ялінку, як п'яны за плот і хоць ты яму кол на галаве чашы. Чым-жа ты яе прыбярэш?

— Мамачка, няхай прынясе!

— Гэтая так-сама. Вось перастань вякаць.

— Чаму чым? Пайду ў царкву вазьму некалькі маленькіх сьвечак, паломім іх яшчэ, а Мірон мне ваты абяцаў...

— Сьвечкі ламаць? яшчэ чаго ня было.

— Ну дык іх цэлыя паставім.

— На соль капэйкі няма, у чым ты хадзіць будзеш? гэта апошняе ў цябе на нагах, а ён аб чым уздумаў. Адно сэрца ад'ядае, толькі дасада з вамі. Ужо хаця-б перад Сьвятым Вечарам... раптам яна замоўкла і торапка пачала перабіраць гаршчэшнікам у печы.

Дзеці зразу прыціхлі, паглядзелі на маму, на сябе, на куцю, што ўжо стаяла на покуці, а потым нешта пачалі між сабою шаптацца. Валя, нахіліўшыся амаль да самага вуха брата, паважна казала:

— На Куцю нащ бацька прыйдзе, дык будзе весялей, як на ялінцы.

— Дык-жа зараз Куця, а яго няма?

— Яшчэ прыйдзе!

— Адкуль-жа ты ведаеш?

— А во Тая самая Божая Маці і маленькі Хрыстос, перад якою мы з табою няраз маліліся, сёньня ўночы мне казалі.

— Няўжо? А чаму ты мне не сказала?

— Бо ня было яшчэ калі.

— Э... а... А можа і ня вернецца? Гэта-ж я забыўся, што абяцаў!

— Вось які ты!

— А ці можна яшчэ цяпер?

— Хто яго ведае. Калі царква цяпер адчынена, дык можа пабяжы...

Росьця, ня слухаючы далейшае гутаркі, стралою выляцеў з хаты.

— Куды ты? гукала маці, але ён ўжо быў за дзьвярыма.

— Ён скора вернецца. А што яшчэ мне рабіць? Загаворвала Валя.

— Папрыбірай троха на лаве, вось; ды замяці хоць з большага хату.

Перад вокнамі мігнулася нейчая постаць.

— Мусіць нехта да нас ідзе? — казала маці і на мамэнт прыпынілася, каб паслухаць адгалоску крокаў, але ўсюды было ціха.

— Гэта мусіць мне здалося, — казала сама сабе, і пачала памагаць Валі прыбіраць хусьцё на лаве.

— Трэба ўжо Куцю пачынаць, а тут таго ветрагона яшчэ няма.

У гэты мамэнт бегам уляцеў у хату Росьця.

— За табою мусіць сабакі з усяго канца гналіся, што аж язык высалапіў?

— Усяго толькі адзін Юзікаў брахануў.

— Куды-ж ты лётаў?

— У царкву, а больщ нікуды.

— Ну дык кладзі хлеб на стол і нясі лыжкі.

Убогі стол, як бачыш, быў прыбраны да Сьвятое Вячэры. Маці з-за абразоў дастала сьвечку, запаліла яе, набажна перахрысьцілася і ўсе пачалі адмаўляць пацеры. Яны ня бачылі, як каля вакон зноў прасунуўся нейчы цень, ня чулі, як рыпнулі ў сенях дзьверы. Як толькі яны сказалі апошняе Амін, ціха адчыніліся дзьверы ў хату і рослая постаць барадатага мужчыны зь невялікім хатылём за плячыма пераступіла парог.

— Добры вечар у хату! — сказаў ціхім голасам падарожны.

— Добры вечар! — адказала маці і пачала пільна ўзірацца ў гасьця, дзеці так сама.

— Можна ў вас, гаспадыня, пераначаваць?

— А хто-ж вы будзеце?

— Хто я? Марыся, няўжо ты мяне не пазнаеш?!!

— Раман! няўжо гэта ты?!!

— Тата, тата! — крычэла Валя, а я казала...

— Як-жа цябе Бог прынёс?

— Запраўды Бог прынёс, бо ўжо быў на валасок ад сьмерці.

Радасьць, сьвятая, неапісаная радасьць напоўніла іх душы і ўбогую хату.

**Анатоль Жменя.**

---

# У калядную ноч

Сьвятыя Коляды. Усе нашыя, спажыўшы сьвятую каляду й куцьцю, паехалі ў царкву. Асталася дома толькі я з бабуляй. Яна старая, а я малая. Сумна было нейк у такую хвіліну самым. Дык, каб разагнаць сум, бабуля пачала расказваць аб адным цікавым здарэньні.

У цёмную зімовую ноч ідзе — кажа — нейкі незнаёмы небарака пазычыць агню. Стукаецца ад хаты да хаты з просьбай: «зьлітуйцеся, успаможэце, добрыя людзі! Жанчына мая нядаўна радзіла, дык мушу абагрэць небарачку малога»...

Але ў глыбокую лютую ноч так усе ўкутаўшыся ў хатах спалі, што ніхто ня чуў ды не адзываўся на ягоную жаласную просьбу.

Ідзе ён, бедны, ды йдзе далей, просячы, ажно бачыць: далёка за вёскай бліскае нейкі вагеньчык. Давай туды йсьці і чымбольш прыбліжаецца да таго месца, тым агонь становіцца усё большым. Радасьць! Прыходзіць урэшце да самага вогнішча й бачыць, кругом яго ляжаць белыя авечачкі, а пры іх сядзіць стары пастух. Падыходзіць яшчэ бліжэй, ляжаць пры пастуховых нагах тры кудлатыя сабакі. Гіркічуць, наежваюцца на яго. Але чалавек не палохаецца. Тады адзін зь іх хапае яго за ногу, другі за руку, а трэйці кідаецца да горла. Але робіцца дзіва: зубастыя пасьці ня хочуць іх слухаць, ня могуць укусіць.

Незнаёмы на'т не жахнуўся нічуць. Ён разглядаецца й рыхтуецца бліжэй к агню. Але авечкі покатам кругом вогнішча ляжаць так, што нельга да яго дступіцца. Бяз-дай-рады незнаёмы ступае проста па іх, а яны ляжаць пакорненька, хоць-бы каторая зварухнулася...

Так цікава расказвае бабуля, што я не магу вытрымаць і перарываю пытаньнем: «чаму яны, бабка, парабіліся гэткія цярплівыя?» — «Даведаешся», — кажа яна, — дый далей цягне расказ.

Як толькі незнаёмы — далей да вагню, ваўкалакаваты бурклівы пастух даўгім, вострым кіем шпурляе ў яго. І тут - новае дзіва: кій, хоць быў добра нацэлены, даляцеўшы да чалавека, вомірг схіляе ўбок, каб не крануць яго, й ляціць, бурчачы, ў поле...

Я зноў перапыняю бабулю: чаму ён не хацеў ударыць гэнага чалавека? А яна, не адказваючы, расказвае далей:

Тады незнаёмы зьвяртаецца к пастуху й просіць: «не шкадуй, чалавеча, пары вугольчыкаў, ад бяды трэ' ратавацца: дзіцятка ў мяне радзілася нядаўна й мерзьне вун с матуляй»...

Стары маўчыць, але тое думае: сабакі не маглі яму шкоды зрабіць, авечкі такую спагаду паказалі, кій не хацеў яго выцяць... І не адважыўся недаваць. «Бяры колькі хочаш, — кажа». — Але ў вогнішчы быў самы толькі жар і прысак, ніводнай галавешачкі, дык без падручнога кухоннага прыладзьдзя нельга было агню ўзяць. Неспагадны пастух бачыць гэта, адыж зноў паўтарае: «бяры колькі хочаш». А незнаёмы, як-бы нічога ніякага, нагінаецца, бярэ голымі рукамі вуглі й сыпле іх у крысы свае адзежыны бясшкодна, бы якія гарэхі, ці яблыкі...

Мяне зноў цікавасьць падрывае: бабанька, міленькая, як-жа ён не папёкся? — Даведаешся, — зноў асаджвае неўмалімая расказчыца, — ды канчае апавядаць:

Аж унурысты пастух пачаў сабе дзівіцца: — што за пракуда? Ні сабакі, ні кій, ні вагонь не бярэ гэтага чалавека?..

Кліча ён незнаёмага, які быў ужо пусьціўся дамоў, дый выяўляе яму сваё зьдзіўленьне: — што за ноч сёньнячы? Адчаго гэта, скажы, табе ўсе рэчы такія сёньня спагадныя й міласэрныя?..

А той адказвае: «нельга табе выясьніць, калі ты ня маеш вачэй»... І пусьціўся борзда ў дарогу, каб урэшце загаіць бяду ў сваёй сям'і, а заўзяты старэча-пастух, баючыся спусьціць яго з вачэй, шлэпае назіркам за ім, каб разгадаць, бач, гэнае дзіва.

І незабаўна праконваецца, што таёмны той незнаёмы ня мае ніякага собскага прытулішча-хаты, дзіцянё ягонае з маткай у нейкай прыгорнай стайні, дзе няма нічагуська, толькі яселькі, сена й пара быдлят. І узрадзела дзікае цьвёрдае сэрца пастуха, жаль яму стала нявіннага прыгожага дзіцяняткі; магло замерзнуць у гэтым абняхаеным кутку, дык надумаў сагрэць небажатка. Вынуў з пастушае свае кайстры беленькую мякенькую аўчынку ды падаў яе апякуну-чалавеку, каб акрыў дрыжачае дзіцятка.

Але ў той-жа хвіліне, калі пачуўся ён міла-

сэрным, адкрыліся ягоныя вочы і ўгледзеў ён тое, чаго ня мог дагэтуль відзець. Ён убачыў навокал мноства чароўна - прыгожых ангелаў, стройна голасна пяючых аб нараджэньні ў гэную ноч для грэшнага сьвету Боскага Збавіцеля. Тады толькі зразумеў няўкорлівы пастух, чаму ў гэтую ноч усё на сьвеце робіцца радасным і міласэрным, каб ніхто й найменшага не адчуваў цярпеньня, каб нікому й найменшая крыўда ня дзеялася.

І нятолькі кругом сябе бачыў захоплены пастух Ангелаў, іх поўна было ўсюды: і ў гроце, і на горах, і лятаючых на небе, і чарадою ходзячых па дарозе ды аддаючы перад стаенкаю чэсьць Дзіцятку Божаму. А ўсюды панавала багавейнае захопленьне, радасьць, песьні, музыка, і ўсё гэта бачыў ён у тую цёмную ноч, у якую сьпярша нічога ня мог дагледзець. Так быў рад гэтаму адкрыцьцю, што мог, кленчучы, дзякаваць за гэную роскаш Богу!

Канчаючы расказ, бабуля ўздыхнула глыбока й дадала: «тое, што аглядаў той пастушок, можа аглядаць і кожны з нас, бо Ангелы ў кожную калядную ноч на небе ўзносяцца, трэба толькі патрапіць іх угледзець»...

Бабуля, гладзячы мяне па галоўцы, далей павучала: «вер мне, гэта так праўда, як тое, што ты бачыш мяне, а я цябе. Каб дагледзець Божу сьветазарнасьць, ня трэба ляцець ні на месяц, ні на сонца, ня трэба нязвычайнага сьвятла ды лямпаў — трэба толькі мець міласэрныя веруючыя вочы».

**З. Вяз.**

# ПРОШЧА

**Алесь Салавей**

Ня ўзыйшла заранiца —
толькі морак імгліцца.
А душа не сьмяецца —
птушкай раненай б'ецца.
Богу я памалюся —
Паляціць мая мроя,
далячынь перакрое;
праз узгоркі, праз гаці
паляціць аж да Маці,
да бярозкі танклявай
з пахмурнелаю славай.
Пад бярозкай бруіцца,
прагне волі крыніца —
там, закута заўчасне,
ейны водблеск ня гасьне.
У пакутах, у страце
там праходзіла Маці,
ля крыніцы стаяла,
свайго Сына гукала.
А срабрыстыя воды
вобраз той назаўсёды,
як у люстры, адбілі,
сьледу мукаў ня змылі...
А душа не сьмяецца —
птушкай раненай б'ецца.

Ня спыняйся, пануры,
не спакорышся буры,
Зь непаўстрымнасьцю ў пары
выйдзеш, выйдзеш за хмары.
Станеш з думкаю яснай
пад вясёлкай нязгаснай.
За вясёлкавай брамай —
ты ля прошчы, ля самай,
ля абвеянай славай,
ля бярозкі танклявай.
Пад бярозкай бруіцца,
звоніць срэбрам крыніца,
і — заўсёды жывая —
як вясёлка, зіяе.

Па дарозе цярпеньня —
тэй дарозе збаўленьня —
там праходзіла ў шаце
Маці — Божая Маці,
ля крыніцы стаяла
і Ісуса шукала.
Дабрадайныя воды
вобраз той назаўсёды,
як у люстры, адбілі,
сілы духу ня змылі.
Там ратунку амбона —
там твая абарона —
там пазбава ад буры,
ня спыняйся-ж, пануры!

# ХРОНІКА

**Журовіцкія ўрачыстасьці.**

З нагоды 300-ых угодкаў зьяўленьня цудатворнага Журовіцкага абраза Божае Маці 20-га травеня г.г. у Сьвята Усьпенскім Журовіцкім манастыры адбываліся вялікія ўрачыстыя Багаслужэньні з удзелам Горадзенскага еп. Варсофонія і Менскага архіеп. Пітірыма і вялікага збору вернікаў. Варта ўвагі, што арх. Пітірым падарожжу з Менска і назад адбыў на самалёце.

У Багаслужэньні прымала ўдзел 60 сьвятароў і сьпяваў манастырскі хор. У справаздачы падчырківаецца, што служба была строга ўстаўная.

(Ж.М.П.)

**Другія Багаслоўска-Пастырскія Курсы ў Горадні.**

У днёх 9-7 да 9-8 у Горадні адбыліся другія з чаргі кароткатэрміновыя Багаслоўска-Пастырскія курсы, на якіх удзельнічала 25 сьвятароў. Заняткі адбываліся па: Сьвятому Пісаньню Старога й Новага Запавету, кананічнаму праву, дагматычнаму багаслоўю, царкоўнай гісторыі, выясненьню іншаслаўных веравызнаваньняў і адступленьні ад Праваслаўя, літургіцы, удзялялася ўвага расейскай мове. (Аб беларускай мове няма найменшага ўспаміну. Акрамя таго адбываліся штодзенныя казаньні зь іх крытыкаю.

Па сканчэньні курсаў гэтым разам адбыліся іспыты. Пасьля трох месяцаў намечаны яшчэ паўторныя іспыты курсантаў у іх благачынных.

(Ж.М.П.

## АНГЛІЯ

**Новы часапіс.**

Ад 7-ХІ г.г. у Лёндане пачаў выходзіць ратататарным друкам двухтыднёвік «Беларус на чужыне». Газэта мае на мэце даваць палітычныя інфармацыі для беларускае эміграцыі ў Англіі.

## БЭЛЬГІЯ

**Зьмена адрысу.**

Гэнэральная Рада Саюзу Беларусаў у Бэльгіі ад верасьня г.г. перанесена з Шарлеруа у Ліеж. Яе цяперашні адрыс:

Union Bielorussiens en Belgique, 19, rue du Sammuel Donnay, Flamalle — Grand (Liege).

**Арганізуецца Бібліятэка.**

Пры ГРСББ арганізуецца Бібліятэка «Незалежная Беларусь». Гэнэральная Рада просіць усе беларускія выдавецтвы і радакцыі прысылаць свае выданьні ў канцылярыю Рады.

## НЯМЕЧЧЫНА

**Беларускія рым.-кат. парахвіі.**

Беларускія каталіцкія парахвіі Остэргофэн і Віндзішбэргэрдорф абслугоўвае кс. А. Голдзікоўскіс. З асаблівым рэлігійным уздымам адбыліся Багаслужэньні ў дзень Усіх Сьвятых у Остэргофэнскім лягэры, і ў наступную нядзелю ў Віндзішбэргэрдорфенскім лягэры. Прачытанае пабеларуску сьв. Евангельле, казаньне і беларускія рэлігійныя песьні выклікалі ўрачысты і паважны настрой вернікаў, якія шчыра ўдзячны кс. Голдзікаўскісу за яго прыхільныя адносіны.

**Ватыканскі Беларускі Эміграцыйны Камітэт.**

З даручэньня Пантыфікальнае Эміграцыйнае Камісіі пры Апостальскім Пасадзе і дазволу акупацыйных ваенных уладаў у Нямеччыне пры Беларускім Душпастырстве ўтвораны Ватыканскі Беларускі Эміграцыйны Камітэт на чале з а. дэканам М. Маскалікам. Аддзелы гэтага Камітэту знаходзяцца пры беларускіх каталацкіх парахвіях: Госляр, Ватэнштэт, Міхэльсдорф, Віндзішбэргэрдорф, Остэргофэн і Мюнхэн.

**Малітвы за Бацькаўшчыну.**

У тых беларускіх лягэрах дзе 5-12 кастрычніка не змаглі адбыцца Багаслужэньні за Бацькаўшчыну, гэткія Багаслужэньні, з ініцыятывы самых вернікаў адбываюцца пазьней. Так у днёх 27-30-ХІ адбыліся гэткія Багаслужэньні Остэргофэне, Віндзішбэргэрдорфе і Мюнхэне. Дакладнейшую справаздачу аб іх падамо ў наступным нумары.

**Агульны Студэнцкі Зьезд Цантралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў (ЦБСА) на Чужыне ў Марбургу.**

Згодна з намечанаю праграмаю ў днёх 1-га і 2-га лістапада г.г. у Марбургу адбыўся Агульны Студэнцкі Зьезд ЦБСА, на якім акрамя паасобных студэнцкіх арганізацыяў на чужыне прысутнічалі так-жа шматлікія госьці - прадстаўнікі амаль усіх беларускіх асяродкаў у Нямеччыне і часткова з іншых Зах. Эўрапэйскіх краінаў.

Справаздача старшыні ЦБСА за мінулы год выказала, што Урад ЦБСА годна выканаў свае абавязкі, хоць і меў цяжкія ўмовы працы.

На другі дзень Зьезду быў прыняты статут Студэнцкага Стыпэндыяльнага фонду (ССФ) і выбраны Урад ЦБСА і ўправа ССФ, а ўканцы прачытаны рэфэрат на тэму: «Студэнцтва і нацыянальны рух».

З нагоды Зьезду вечарам першага дня адбыўся банкет з удзелам запрошаных госьцяў. Прынагадныя прамовы, харавыя і солёвыя выступленьні стварылі цёплую студэнцкую атмасфэру, якая пакінула ў прысутных незацёртае ўражэньне.

Дакладную справаздачу аб Зьезьдзе чытач напэўна знойдзе ў студэнцкім часапісе.

**Цяжка змаўчаць.**

На пачатку лістапада г.г. з беларускага Д.П. лягэру Остэргофэн выехала 69 чалавек у расейскі лягэр з праваслаўным сьвятаром і. Іванам Лупіш, які абяцаў іх хутка перавезьці ў Аргэнтыну. На ад'езьдзе а. Іван Лупіш абабраў дазваньня лягэрную царкву, забіраючы нават царскія дзьверы з іконастасу. Варта асабліва ўвагі, што гэты рабунак царквы сьвятар даконваў у царкоўным аблачэньні і калі сабраныя вернікі асьмельваліся падыйсьці да яго з пратэстам, дык ён крычаў (даслоўна): «Адхадзі, ведіш, што я ў аблачэньні, каторае ты падайдя асквернішь». Аб гэтым «подвігу» сярод белага дня цяжка змаўчаць.

**Новы рэлігійны часапіс.**

У Біліфэльдзе выйшаў на цыклястылю першы нумар «штомесячнага рэлігійнага часапісу» «Праваслаўны Беларус». Год, месяц, выдавецтва і адрыс не падаецца. Зьмест выключна дэвацыйна-рэлігійны.

## ФРАНЦЫЯ

### СЬЦЕННАЯ ГАЗЕТА

Выйшаў першы нумар сьценнай газэты «Беларуска» — орган Аб'еднаньня Беларускіх Жанчын.

### 27-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня.

З нагоды 27-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньня дня 23-га лістапада ў Парыжы ў царкве сан Сюльпіс была адпраўлена Служба Божая з адпаведнаю малітваю за паўшых у змаганьні, а папалудні ў залі каталіцкага Студэнцкага Дому стараньнем Аб'еднаньня Беларускіх Жанчын у Францыі адбылася адпаведная акадэмія. На праграму акадэміі зложыліся: кароткі патрыятычны рэфэрат і канцэртная частка харавога і салявога сьпеву пры мастацкім акампаньямэнце і дэкламацыі.

На адкрыцьці акадэміі прадстаўніца Ж. А. зьвярнулася да прысутных гэткімі словамі: Аб'еднаньне Беларускіх Жанчын у Францыі хоча гэты вечар правесьці ў найбольш скромным і мірным настроі, бо калі наўкола, па усяму сьвету, цяпер гуляе неспакой, разруха — мы, беларускія жанчыны, хочам, спакойным, але сьведамым і рашучым ушанаваньнем Слуцкага Паўстаньня, даць пэўнасьць нашаму Народу і Нашай Бацькаўшчыне, — што мы стаім на варце, што мы зорка сочым за падзеямі і, як толькі настане час, мы, як нашыя браты Случчакі ў 1920 годзе, — выйдзем шчыльнымі радамі, каб здабыць наш родны і вольны прастор.

27 гадоў назад — слуцкія паўстанцы — першыя жаўнеры Беларускай Народнай Рэспублікі, выйшлі насустрач ворагаў - акупантаў, больш узброеныя сьведамасьцю неабходнасьці змаганьня, чым зброяй.

Беларусь была прагалошана Незалежнай, — Беларусь узноў пачалі таптаць чужынцы. З той самай жорсткасьцю, як і царскія жандармы, разбэшчаныя ўсходнія і заходнія горды накінуліся на Народ, які задэкляраваў сваю волю ня толькі людзьмі звацца, але і быць гаспадаром ў сваёй хаце

Прагаласіўшы сваю Незалежнасьць, — Беларускі Народ паўстаў, каб Яе бараніць.

І вось — Слуцкія Паўстанцы, — хоць і ведалі, што фізычная перавага не на іх баку, — пайшлі ў бой.

Пайшлі спакойна, разважна. Узброеныя абразамкамі, рознага сорту і калібру стрэльбамі і кулямётамі — кінуліся ў атаку.

Як пільна сачыў Народ за гэтым змаганьням сваіх сыноў, як моцна падтрымліваў дух і адвагу сваіх жаўнераў, — можа выявіць тое, што ня было на Случчыне ніводнага бацькі і ніводнае маткі, якія-б галасілі, выпраўляючы сваіх сыноў. У лістападавыя дні 20 году нідзе, — ад гораду да апошняе бабылёвае хаты, — ня было чуваць хоць-бы слоўца нараканьня. На кожным твары — жанчын і мужчын у роўнай меры, адбівалася рашучасьць і паважнасьць.

«Трымайся», — казалі бацька й маці. «Трымайся», — казала жонка.

У гэтым так простым слове было усё, — і слуцкі паўстанец спакойна йшоў у бой, ішоў на сьмерць.

Паўстаньне было задушана мацнейшым ворагам. Слуцкія паўстанцы расьцярушыліся.

Але яны ня страціліся. І на далей яны засталіся верныя прысязе Вольнай і Незалежнай Беларусі. І на далей яны, змагаюцца пад бел-чырвона-белым сьцягам на грамадзкай ніве для дабра Беларускага Народу.

Мы, беларуская моладзь на эміграцыі, — мусім узяць прыклад з Слуцкіх Паўстанцаў.

Хай жывуць Слуцкі Паўстанцы! Жыве Беларусь!»

---

## ПОШУКІ

Брата **Буйвілу** Рыгора, які да 1945 г. быў у Нямеччыне і дзядзьку Сымона **Копань, які перад** вайною выехаў у Амэрыку, шукае Буйвіла Янка просіць усіх, што ведаюць аб сёньняшнім мейсцы пражываньня ўспомненых асобаў, адгукнуцца на адрыс:

**Моніча** Ягора з в. Шчорсы шукае жонка Надзя Моніч.

**Шышэя** Кастуся с. Івана з в. Краскоўская Гара шукае маці Шышея Алена.

Пісаць на адрыс радакцыі.

**Шантара** Янку, нар. 14-XI-1923 шукае маці Караліна Шантар, пісаць:

Szantar Karalina. Polish Lager K. Post Immendorf. Kr. Braunszweig. Zone Anglaise.

**Ялецкі** Пётра шукае брата. Пісаць:

**Yalecki Peter Abitibi Power Paper Company Limited, Mile 132. Agava ACR (Camp 38) Ontario, Canada.**

## ЗЬМЕСТ




Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris.